№ 23. Ausgabe B.

# ГОМАН

№ 23 (115). Год II. Вільня, 20 марца 1917 г. Цэна 5 фэн. (3 кап.).

## 19 марца.

**Заходні тэатр:**

У апошніе дні мы плянова ачысьцілі паяс зямлі між Арра і Энь. Доўга ладжэные стратэгічные рухі адбыліся удачна, без ўмешаньнеся ворага. Ўсе дарогі у пакінутай тэрыторыі мы зруйнавалі. Астаўшымся жыхаром мы пакінулі на 5 дзён харчоў.

---

БЭРЛІН. У апошніе дні нашы падводные лодкі ізноў затапілі караблёў паёмнасьцю на 116.000 тонн.

ПЕЦЯРБУРГ. (П.Т.А.). У тэлеграме расейскаго ураду прэдстаўнікам Расеі заграніцай, дзеля перэдачы яе чужаземным урадам, паказываецца як выдатна скора пераможэн стары урад у Расеі с прычыны агульнаго нездаволеньня ім. 15 марца цар Мікалай у Пскове адмовіўся ад трону за сябе і за свайго сына Аляксея. Урад бярэ на сябе выпаўненьне міжнародных абязацельств, які прыняло старое правіцельство і, калі можна, ешчэ палепшыць стасункі да сувязных і прыязных націй. Новы лад у Расеі будзе дэмократычны. Ён будзе шанаваць вялікіе і малые народы, дасць ім магчымасць развіцьця і гэткім парадкам захавае аднадушнасць між імі.

Вялікі князь Міхайло адмаўляецца прыняць на сябе панаваньне да устаноўленьня формы правіцельства і новых аснаўных законоў Устаноўчым Сабраньнем.

Новы урад абецае паправіць зробленые абмылкі, вярнуць спакой і парадак у старане, дзеля таго каб воля самаўласнаго народу магла свабодна развязаць сваю долю.

КОПЭНГАГА. Крэпасьці Свэаборг, Выборг і ўвесь Балтыцкі флот прылучыліся да новаго ураду.

ШТОКГОЛЬМ. У розных мейсцах азіяцкай Расеі такжэ выбухла рэволюція і іншые гарнізоны далучыліся да паўстанцоў.

ЦУРЫХ. Вялікі князь Мікалай Мікалаевіч прыняў запропанаваные яму царам Мікалаем, перад адрачэньнем, вышэйшые поўнамочыя ва ўсіх ваенных і цывільных справах.

ШТОКГОЛЬМ. У чысьленых вёсках Курскай, Палтаўскай і Арлоўскай губэрній селяне кінулі веснавые работы, яны устроілі маніфэстаціі са сьвятымі песьнямі і крыкамі «ура!» у чэсць цара Мікалая. Калужкі, Палтаўскі, Бэсарабскі губэрнатары ня хочуць прыслухаць новаму ураду. Генерал-губэрнатар туркестанскі—Куропаткін—сказаў, што ні ён ні яго войскі не прызнаюць новаго ураду. У Одэссі і ў Роставе праяўляецца рэволюцыйны рух. Камандант крэпасьці Дынабург, генерал-лейтэнант Львов, адмовіўся слухаць новаго ураду. У Остраві, пскоўскай губэрні, соціялісты устанавілі другі незалежны урад.

ПЕЦЯРБУРГ. Добра паведомленые кругі запэўняюць, што у найбліжэйшые дні будзе апавешчэна констытуційная монархія.

ПЕЦЯРБУРГ. У сваей праграмнай прамове Мілюкоў сказаў, што доля дынастыі будзе перасуджэна на будучым устаноўчым сабраньні.

ЖЭНЭВА. Парыжскіе газэты паведамляюць, што між Мікалаем Мікалаевічам і Кірылам растуць недаразумленьня, хоць абодвы кажуць, што яны староннікі новаго ладу.

КОПЭНГАГА. Што англійцы «кумы» расейскай раволюціі становіцца што раз відавочней. Усякіе зносіны з Расеей падлегаюць англіцкай цэнзуры. Тутэйшые расейцы, хочучые ехаць у Расею, павінны падаваць свае пашпарты тутэйшаму англіцкаму консульству. Ад швэдзкай граніцы едзе у Расею усяго адзін поезд у дзень.

КОПЭНГАГА. Рэакційны фінляндзкі сэнат распушчэн новым расейскім урадам. У Фінляндзіі расьце ахвота стварыць фінскую рэспубліку, якая была-б у сувязі з расейскай рэспублікай.

---

## Пэрэварот ці Рэволюція?

Чытаючы тэлеграмы офіціяльнаго «Пецярбурскаго Тэлеграфнаго Агенцтва» аб апошніх здарэньнях у Расеі, насуваецца пытаньне ці гэто народная і пролетар'яцкая рэволюція, ці толькі прыдворная камарыльля зрабіла пэрэварот, каб змучэный вайной народ, надзеей на лепшую будучыну, уцішамірыць.

На пытаньне:—пэрэварот ці рэволюція?—хацелосяб сказаць так, як, у часе французскай рэволюціі сказана было каралю французскаму калі ён гнеўна спытаў убачыўшы грамады народу: — „Што гэто бунт!?—„Не, каралю, гэто ня бунт, а рэволюція!“

На жаль дагэтуль німа ніякіх данных, каб тое самае сказаць аб Расеі, што там стаўся не прыдворны перэварот, а рэволюція.

А гэто дзьве саўсім розные рэчы. Калі там стаўся толькі прыдворны перэварот, а не праўдзівая, народна-пролетар'яцкая рэволюція, то і парадкі у Расеі ад гэтаго не паправяцца, і адна толькі будзе розніца тая, што на маніфэстах царскіх будзе падпісан не „Мікалай“, а „Міхайло“. Ад гэткай перамены ні расейскаму селянству, ні пролетар'яту, ні народам заселяючым Расею лягчэй ня будзе. Наадварот, некаторые данные наводзяць нас на мысль, што гэто толькі перэварот і перэварот зроблены англійцамі і іх капіталамі, каб супакоіць расейскі народ, каторы што раз галасьней пачынаў вымагаць ад правіцельства закончэньня вайны. Бо на выпадак, калiб народу удалося дабіцца закончэньня вайны Расеей, то прыйшлося-б тады тое ж самае зрабіць і Англіі с Франціей.

А якжэ тут рабіць Англіі згоду, калі ей хочэцца панаваць над усім сьветам, тымболей, што дагэтуль пры помачы інтрыг і грошы, яна жар выгрэбае чужымі рукамі.

Можна думаць, што расейскі народ ня толькі ашукалі даўшы яму у 1905 гаду констытуцію, але і цяпер ашуківаюць зрабіўшы фальшывую рэволюцію.

*Л—в.*

---

## З жыцьця цяперашняго расейскаго цара.

15 сьнежня 1912 году ва ўсіх выхадзіўшых у Расеі газэтах быў надрукаваны сэнсацийны маніфэст цара Мікалая II. Маніфэст гэны слова-ў-слова такі быў:

„Лічучы патрэбным устанавіць над асобай, маетнасцю і справамі Вялікаго Князя Міхайлы Александравіча апеку, Мы прызналі патрэбным узяць на сябе глаўны кірунак над гэнай апекай, а безпасярэдняе кіраваньне усімі прыналежачымі Вялікаму Князю Міхайлу Александравічу рухомымі і лежачымі маетнасцямі, а такжэ капіталамі узлажыць на глаўнае упраўленьне Удзеламі“.

Тады, у тые часы вельмі многа гаварылося аб гэтым маніфэсце. Хадзіло многа чутак і дагадак. Між іншым расказывалі, што апека на насьледніка расейскаго трону (да паўналецьця царскаго сына Аляксея), узложэна за яго гуляшчае жыцьцё і затое што ён ажаніўся з расейскай падданкай, чаго не дапушчае устаноўлены здавён звычай расейскіх цароў. То ізноў гаварылі, што неласка царская пайшла далей маніфэсту, — бо Міхайлу Александравічу бытцым было забаронено нават падпісывацца фаміліей — Романов.

У канцы ніхто добра ня ведаў што значэ маніфэст і апека.

Сам Міхайло Александравіч жыў у Арле. Хадзілі, там таксама, рознародные і збіўчывые чуткі. То казалі, што насьледнік вядзе паважнае жыцьцё і што цікавіцца грамадзянскай мыслю у Расеі і часта у яго палацы адбываюцца нейкіе сабраньня, то ізноў што вядзе гуляшчае жыцьцё.

Пагаварыўшы людзі перайшлі да будзённых спраў, бо сам цяперэшні цар віякім такім чынам не зварачаў на сябе увагі.

*В—т.*

---

## Вячэрные мысьлі.

Здаралося мне шмат гаварыць з «інтэлігентнымі» людзьмі у Вільні, каторые знаюць даволі добра беларускую мову, але многа хто з іх кажэ, што гэто мова «ня пекная», «простая», а што нібы польская мова «пякнейшая». Такжэ здаралося мне чуць ад польскіх паноў, што французская «вышэйшая» ад польскай.

Кожны народ мае сваю мову і свая мова найпякнейшая для таго чыя яна, дык і ня дзіва, што кожны народ хваліць сваю мову, як сава хваліць сваіх, а не чужых дзяцей.

Французская мова у польскіх паноў з'явілася с падарож у Францію, і часта французскай абычайнасьці яны набіраліся у якім небудзь Монтэ-Карлё, і польскіе дамы з дочкамі аттуль прывозілі моды запазычыўшы іх ад дам «палусьветка» і Монтэ Карлоўскіх «арыстократак», а французскі тон і мову прывазілі с французскімі «боннамі».

Нашы «інтэлігенты» бяруць тон з Варшавы. Як для польскіх паноў французская, так для нашых паноў варшаўская мова ёсць «вышэйшай» мовай.

Прыходзіцца аднак задаць пытаньне, хтож гэто такіе віленскіе інтэлігенты, адвакаты, дактары, ксяндзы, фармацэўты і шмат віленскіх скрабіпёрак, што чураюцца мовы беларускай і гавораць толькі «вышэйшай», польскай мовай. Отжэ адлічыўшы нейкую, спамі-ж іх, частку на паходзячых с тутэйшых і варшаўскіх паноў, рэшта будуць тые самые беларусы, часта селяне, якіе саўсім нідаўна ешчэ у сваей вёсцы, свіньней пасьвілі, або панскіе боцікі чысьцілі і за бацькоўскіе мазолі, ці з ласкі добраго чэлавека, выйшлі у людзі ды скаштаваўшы лепшаго жыцьця адбіліся ад сваіх, баяцца прызнацца перад панамі, што яны людзі маючые свой ўласны род і племя, маючые сваю не варшаўскую бацькоўшчыну. У гэтым вечным хаваньніся і хіланьніся перад панамі яны пастараму асталіся толькі пастухамі і спадляюцца да таго, што замест, як гэто вымагае дабро беларускаго і літоўскаго народу, яго шчасьце у будучыне, каб працаваць дзеля адраджэньня развіцьця і ашліфаваньня роднай мовы і літэратуры, адбудаваньня сваей вольнай і шчасьлівай бацькаўшчыны, яны гатовы быліб аддаць і сваю бацькаўшчыну і свой народ у няволю і нядолю гэнай нібы «вышэйшай» рассе, абы толькі за сабой зацерці сьляды (бытцым гэто праступак) што яны паходзяць с селян. Але ведайце вы, перакінчыкі, што як вы адракліся сваей бацькаўшчыны і стыдаецеся сваіх бацькоў, так сыны вашы будуць стыдацца вас, як здрайцоў сваей бацькаўшчыны.

*Лабуць.*

---

## Ешчэ аб нашых вяльможных і ясна вяльможных.

Слушна пісаў у артыкулі «Лётэрыйная пошэсць» п. Тутэйшы, што нашым стасункам віленскім трэба дызэнфэкціі. Я скажу, што гэтай дызэнфэкціі многа трэба выліць на тое балотцэ якое у Вільні прысвоіло сабе найменьне «арыстократіі». У гэным балотцы, я вам скажу гэткая брыда завелася, што загражае публічнай моральнасьці. Асабліва благі ўплыў іхні адбіваецца на нашым мешчанстве, што дзярэ нос у гару, не разбіраючы і, па сваей некультурнасьці, ня могучай разабраць праўдзівай культуры ад прост панскаг сьвінства.

Я маю на ўвазе цэлую катэгорыю «арыстократіі», каторая ходзіць маліцца да сьв. Яна. Аякжэ, толькі да сьвятога Яна, і то ешчэ с францускім малітоўнікам! А дома, недзе каля Міхальскай вуліцы ці Юркоўскаго праспэкту, утрымліваюць, то тайны «салён» для міліціі, то даражэйшы для вышэйшых ранг. Адна з гэткіх арыстократак, мамуся з дачкой, так налюлілася пры вясёлай, хоць і мала знаёмай кампаніі, 'што калі выбух у яе кватэры пажар, не магла зразумець што такое сталося, чаго і зачым прыйшлі пажарные. Град эпітэтоў, якімі на суседзёў і пажарнікоў сыпалі вусны гэтай арыстократычнай матроны, не часта здараецца пачуць нават у падозрэннай славы установах у часе вострых там гутарак.

Гэтая, і ешчэ некольні «арыстократычных» мамусь ходзяць напрыклад штодзень на «сьлізгаўку», але не дзеля забавы, а на ловы, значэ на палеваньне. Мамуся выпускае дачушку на лёд, а сама вартуе, што пабуйней зьвярыну. Міргком, кіўком дае знаць дачцэ, тая пачынае увіхацца. Першы прэтэкст да знаёмства лёгкі, далей ідзе вучэньне польскай мовы. Тут відаць дочкі мамусь пачуваюць на сабе «гісторычную місію» бо старэньне іхняе зазвычай дармо не прападае і дамоў варочаюцца з «дзічынай» пад пахай.

У вольны час ад гэтых заняцій гэные пані займаюцца дабрачыннасьцю, апекай над беднымі і шырэньнем асьветы, само сабой разумеецца, польскай.

Ну ці-ж не расчуляючые тыпы, а?

*Відавокі.*

---

## Што сказаў доктар.

(*Маленкі фэльетон*).

Дзед майго знаёмаго хрысьціўся і жаніўся у уніяцкай цэркві, а бацька 8 гадоў судзіўся бароначыся ад „казённай веры". Цяперэшні унук нахрапам хочэ быць самым ярым палякам, што яму слаба удаецца.

Гэтак бывае часта.

Раз, пры шклянцы кавы, стаў ён нарэкаць, што пакуль не было беларускаго і літоўскаго руху, было ўсё добра, спакойна, ніхто не сварыўся, не вадзіўся, адным словам рай дый годзі. Размову гэту слухаў наш супольны знаёмы доктар; ён ня сцерпеў і спытаў:

— Скажы, пане, калі вы загоніце шчэпку у мёртвае цело, што станецца?

— Што станецца? Ну, нічога не станецца, шчэпка будзе тырчэць у целі.

— Праўда, саўсім праўда!

— Ну, а калі вы загоніце шчэпку у жывое цело што будзе?

— Найперш мейсцо тое завогніцца і пачне нарываць, калі шчэпкі ня выняць.

— І гэто саўсім справядліво.

А цяпер я пану растлумачу чаму гэто так дзеецца.

Шчэпка калі трапіць у мёртвае цело спакойна ўсё, бо яно мёртвае, ня можэ рэагаваць на гэто. І народ наш даўней быў абумёршый і ня мог бараніцца.

— Але прычым тут народ?

— Зара, пачародзе, усё выясьніцца!

...Каліж загоніце шчэпку у жывое цело, то формуецца нарыў, а нарыў—гэто гнойнае запаленьне. Запаленьне гэтае паўстае затым, што каля шчэпкі пачынае псавацца кроў і здаровы арганізм стараецца выкінуць яе с сябе.

Гэтак, саўсім гэтак бывае і ў целі народным: калі цело жывое, здаровае і ў яго трапіць чужое цело, то ў тым мейсцы творыцца гнойнае запаленьне: сваркі нацыянальные, звады, непрыемнасьці, подласьці нават, але вінавато гэтаму не здаровае і жывое цело народнае, а тая чужая застрамка. С тым момэнтам, калі цело выкіне, разам з гноем, с сябе застрамку, рана загоіцца.

Меў слушнасць доктар ці не, судзіце самі.

*Язэп Гулевіч.*

---

## У Вільні і ваколіцах.

× **Закрыцьце выстаўкі штукарства.** У аўторак 20 марца закрываецца выстаўка штукарства.

× **Вялікодные вакацііі.** Вялікодные вакацііі для школ места Вільні пачынаюцца 2-га красавіка і канчаюцца 15-го красавіка. На Тройцу у гэтым гаду вакацій школьных ня будзе.

× **Пачтовые зносіны.** Між жыхарамі тутэйшаго краю і іх сваякамі у работніцкіх батальёнах, а такжэ жывучымі у Нямеччыне як работнікі, дапускаюцца ніжэйпісаные пачтовые зносіны: 1) аткрытка штотыдзень па $7^1/_2$ фэн., па нямецку або у якой аднэй тутэйшай мове; 2) пэрэвод грошы да двох разоў у месяц; 3) раз у месяц пасылка, вагой да 10 нямецкіх фунтоў.

Пачтовые картачкі прыймаюцца на Домініканскай 2, ўход 13, у панядзелак, пакой 128 ад 10-й да 1-ай гадзіны. Пачтовые пераводы выплачываюцца кассай мeстоваго ураду, пасылкі прыймаюцца—Домініканская 3 пакой 66.

× **Апавешчэньне аб заяўцы фаховых работнікоў.** На аснаваньні загаду пана Глаўнакамандуючаго на ўсходзе ад 29 студня 1917 году, аддзел I с № 30/17, гэтым загадываецца каб усе пражываючые у Вільні фаховые работнікі, калі яны не працуюць у ваенных прэдпрыемствах, заявіліся да 31 марца 1917 году ў местовай Біржы Працы, Завальная 5 і прэд'явілі там свой Об. Ост пашпарт. Заяўка павінна адбывацца у часе ад 9 гадзіны раніцы да 2-ой па абедзі.

Кожная пазьнейшая перамена кватэры, сямейных стасункоў, ці мейсца працы павінна быць заяўлена у Біржы Працы не пазьней трох дзён.

Фаховымі работнікамі лічацца—работнікі па дрэву: цесьлі, стальмахі, токары, бондары і т. д., работнікі па жалезу: сьлёсары, тачыльшчыкі, маханікі, адліўшчыкі, машыністые; электротэхнікі, муляры, каменаклёвы, пекары, мясьнікі, краўцы, шаўцы і т. д. Не выпаўненьня будуць прасьледавацца судовым парадкам на аснове § 138 расейскаго Своду аб карах.

Вільня 16 марца 1917 году.

Der Deutsche Stad hauptmann
**Pohl.**

× **Падкінутые дзеці** 12 марца вечэрам пад брамай дому, Вялікая вул. 53, знайшлі дзяцёнка маючаго каля 6 тыднёў.

На вялікай вул № 58, знайдзена дзіўчынка 2 тыднёў с польскай запіскай.

Пры доме—Бэрнардынскі завулак 15 знайдзена такжэ дзяўчынка двох тыднёў.

× **Знайдзеный труп.** 15 марца, за таварнай станціей, знайшлі мужчынскі труп на ручных санках. Нябошчыку каля 50 лет, русавалосы з бародкай.

× **Крадзежа са узломам.** У ночы на 17-е, на Каралеўскай вуліцы у складзе дабрачыннаго Таварыства зроблена крадзежа са ўзломам. Украдзено 36 пудоў саланіны і іншые прадукты.

× **Скорая помач.** Ад 5-го да 11-го скорая помач пададзена у 70 прыпадках. У 47 прыпадках была паклікана карэтка скорай помачы.

× **Курс рубля:** офіцыальны — 2 м. 00 фэн. за рубэль; у банках пры прадажы — 2 м. 30 ф., пры куплі—2 м. 34 ф.

Пазычковая каса бярэ 6%.

× **Тэмпэратура.** Найвышэйшая і найніжэйшая тэмпэратура за апошніе дні была (па Цэльсію):

| | найвыш | найніж. |
|---|---|---|
| за дзень з 14 на 15 | — 1,5° | — 7° |
| „ з 15 на 16 | — 8° | —13° |
| „ з 16 на 17 | — 1° | —19° |
| „ з 17 на 18 | — 8° | —17° |

---



---

## З усяго Краю.

**Новы павет.**

ЛІДА. Сельскі павет Ліда прылучаецца да павету Плянты. Новы вялікі павет будзе называцца павет Плянты, урад паветовы будзе у Шчучыне.

**Прышчэпка воспы.**

Прышчапіць сабе воспу павінны ўсе жыхары краю, якіе ў апошніе два гады не прышэплялі воспы і ня могуць гэтаго давясьці доктарскімі свядоцтвамі. Прышчэпка воспы дармовая. Не прышчапіўшые сабе воспы да 1-го мая 1917 году будуць караны.

**Тэрмін здачы конскіх валасоў.**

СУВАЛКІ. Тэрмін для здачы конскіх валасоў канчаецца 20 марца.

**Лекція аб грашавых справах.**

ВОЎКАВЫСК. У кінаматографе на Шырокай вуліцы, гэтымі днямі чыталася лекція аб грашавых справах ваюючых дзержаў.

**Грабеж і убіўство.**

ПАЧОНКА, шырвінцкаго павету. У ночы с 13 на 14 марца тут забіт і аграблен арэндатар, Станіслаў Рынкевіч і яго жонка Алена. Убіўство зроблено альховай палкай; убіўцы захапілі ашчадніцкую кніжку Віленскаго Государственнаго Банку на 800 рублёў і тры расейскіе сторублёўкі.

**Арэшт конакрадоў.**

ПЛЯНТЫ. Тут арэштавалі шайку конакрадоў зложэную с 6 чэлавек, якая тэрыразавала усіх акалічных жыхароў.

---

## З усяго сьвету.

**Адстаўка ваеннаго міністра.**

ПАРЫЖ. С прычыны няверы палаты францускі ваенны міністр Лятэй падаўся у адстаўку.

ПАРЫЖ. Усё францускае міністэрство падалося у адстаўку.

**Арэшт на нямецкіе караблі.**

ШАНХАЙ. Кітайскі урад налажыў арэшт на нямецкіе тарговые караблі, якіе былі тут; іх 13, паёмнасьцю у 35.000 тонн.

**Новы францускі міністр.**

ПАРЫЖ. Часовым ваенным міністрам назначэн адмірал Лякез.

**Разрыў с Кітаем.**

ПЭКІН. Маршалак міністроў аддаў нямецкаму паслу і яго чыноўнікам іх поўнамочы.

# Англіцкая „рэволюція“ у Расеі.

### Кіроўнікі рэволюціі.

Прадседацель спаўніцельнаго Камітэту Родзянко, паклоннік Франціі і добры прыяцель Дэлькассэ.

Новы камандант Пецярбурга Энгельгардт родам інфлянцкі шляхціц.

### Цар адрокся трону.

ЛОНДОН. У ніжняй палаце Боннар Лоў паведаміў, што цар адрокся ад трону. Вялікі князь Міхайла Александровіч апавешчэн рэгентам. Пэрэварот мае на мэці ня згоду, але прадоўжэньне заўзятай вайны. Вялікі Князь Мікалай Мікалаевіч, са згоды начальніка штаба, папрасіў цара на карысць пабеднаго канца вайны, адмовіцца ад трону. Паслы саюзьнікоў у Пецярбурзе атправіліся да цара у расейскую Глаўную Кватэру, каб прымірыць яго са здарыўшымся. У Фінляндзію прыбыў вялікі князь Кірыла, які лічыцца такжэ прэтэндэнтам на расейскі трон.

### Камандант Кронштаду.

КРОНШТАД. Камандантам кронштадзкай крэпасьці Спаўніцельны Камітэт назначыў думскаго дэпетата Апэляева, быўшаго прыказчыка (крамніка) у адным томскім горным прэдпрыемстве. Яго ваенны чын—ефрэйтар запаса.

### Бітвы у Маскве.

МАСКВА. Тут далей ідуць крывавые бітвы. Глаўнакамандуючый маскоўскім ваенным округам, Бразовскій, атказаў Спаўніцельнаму Камітэту, што ён не прызнае яго ўласьці.

### Сьмерць ген. Кноррынга.

ПЕЦЯРБУРГ. Родзянко тры разы тэлеграфаваў да Цара і прасіў яго прызнаць стаўшыйся пэрэварот.

Генерал Кноррынг адмовіўся здацца,—абараняўся рэвольвэрам, быў забіты і яго труп укінут у Нэву.

Спаўніцельнаму камітэту трапілі у рукі тайные паперы сыскнога аддзелу, так што ўсе імёны шпегоў і провакатароў сталіся вядомы.

### Настрой у Англіі.

ГААГА. Усе англіцкіе газэты цешацца с пэрэвароту і лічаць яго перамогай саюзьнікоў.

### Настрой у Франціі.

ПАРЫЖ. Французскіе газэты называюць расейскі пэрэварот перамогай староннікоў вайны над староннікамі сэпэратнай згоды.

### Настрой у Італіі.

РЫМ. Італьянскіе газэты лічаць расейскі пераварот спрыяючым для саюзьнікоў.

### Магчымасць новаго пэрэвароту.

ШТОКГОЛЬМ. У палітычных кругах думаюць, што у найбліжэйшых днях будзе новы пэрэварот. Цяперашні Спаўніцельны Камітэт будзе разагнаны і заступлен другім у каторым будуць заседаць радыкальные соціял-дэмократычные элементы.

### Пэрэварот, а не рэволюція.

КОПЭНГАГА. Тутэйшые газэты пішуць, што пэрэварот у Расеі ня быў народнай рэволюціей, а толькі парлямэнцкай.

### Новае расейскае правіцельство.

ПЕЦЯРБУРГ. Тымчасовымі міністрамі назначэны ніжэйпісаные асобы: Львов — маршалак і міністар ўнутрэнных спраў, Мілюкоў—міністар заграпічных спраў, Керэнскі—міністр судоў, Некрасов—міністр дарог, Конавалов — міністр торгу і промыслоў, Мануілов—міністр народнай асьветы, Гучков—міністр ваенны і морскі, Шынгаров—міністр сельскай гаспадаркі, Тэрэшчэнко—міністр фінансоў, Годнев—дзержаўным контралерам.

Спаўніцельны Камітэт зложэн с такіх асоб: Родзянко — акцябрыст, Чхэідзэ—социаліст, Керэнскій—трудавік, Мілюкоў — кадэт, Конавалов — акцябрыст, Керамлов — левы, Дзьмітруго — акцябрыст, Ржэвскі—прогрэсіст, Шыдловскі—акцябрыст, Некрасов—кадэт, Львов—партіі цэнтра, Шульгін — левы націоналіст і Энгельгардт—партіі цэнтра. Душой пэрэвароту лічыцца Мілюков.

Апошняя Дума складалася с 419 членоў: 61 правых, 86 націоналістоў, 36 партіі цэнтра, 85 акцябрыстоў, 41 прогрэсістоў, 55 кадэтоў, 12 соцыалістоў, 13 палякоў, 6 магомэтаноў, 13 безпартыйных.

### Партыйны пратэст.

ШТОКГОЛЬМ. Думскіе партіі, немаючые сваіх прэдстаўнікоў у Спаўніцельным Камітэці, выразілі свой пратэст. Гасударственая Рада апавешчэна закрытай. Баяцца супярэчак між павадырамі пэрэвароту.

### Заява соцыял-дэмократоў.

АМСТТЭРДАМ. „Times“ паведамляе, што соцыал-дэмократычные члены Спаўніцельнаго Камітэту адмовіліся працаваць у ім, дзеля таго, што ён не выпаўняе іхніх вымог. Расейская арыстократія высказалася, што будзе бараніцца да пасьледку. Соцыалісты сказалі, што будуць у Думе знаходзіцца у крайняй аппазыціі. Работніцкіе массы кажуць: „вайна ці згода нам ўсё роўна, але давайце хлеба„. На выпадак новаго пэрэвароту Керэнскі займе адно з выдатнейшых мейсц.

### Праграма новаго ураду.

ПЕЦЯРБУРГ. (П.Т.А.). Новы урад хочэ вясьці сваю палітыку на ніжэйпісаных асновах: 1) агульная амністыя; 2) свабода мысьлі, друку, сувязей, право забастовак; 3) скасаваньне усіх агранічэній соціяльнаго, рэлігійнаго і національнаго характару; 4) скліканьне установчаго сабраньня, якое апіраючыся на агульнае выборнае право, организуе урад і констытуцію; 5) Паліція заменяецца національнай міліцией з выбранымі начальнікамі.

### Прызнаньне новаго ладу у Расеі.

ЖЭНЕВА. Франція, і Англія прызналі першымі пецярбурскі Часовы Урад.

### Усё ешчэ разлегаюцца выстрэлы.

ПЕЦЯРБУРГ. Ўсё ешчэ разлегаюцца выстрэлы. Усюды разносяць флагі з надпісамі: «свабода, роўнасць, брацтво». У месты і вёскі разасланы тэлеграмы с просьбай падвясьці жыта і мукі у сталіцу.

### Апошні акт Мікалая і доля старога ураду.

ПЕЦЯРБУРГ. (П.Т.А.). Апошнім урадовым актам Мікалая II быў маніфэст у якім, між іншым, гаворыцца: „Будучына Расеі, чэсць нашай арміі, шчасьце народу і ўся будучына нашай дарагой бацькоўшчыны вымагаюць каб вайна была даведзена да пераможнаго канца, дзеля гэтаго Мы палічылі добрым адмовіцца ад кароны і вышэйшай ўласьці. Ня хочучы разстацца з нашым дарагім сынам Мы назначаем нашым наступнікам брата нашаго Міхайлу Александравіча, які дасць прысягу на констытуцію. Хай благаслаўляе Бог Расею“.

Вялікі князь Мікалай Мікалаевіч назначэн глаўнакамандуючым усей арміей.

Міхайло Алеквандравіч у свой чарод адмовіўся ад трону.

Ўсе міністры, а такжэ Горэмыкін, Сухамліноў, Шчэгловітоў, Маклакоў, Нератоў і Курлоў знаходзяцца у Петропаўлаўскай крэпасьці. Другіе высокіе асобы, між імі мітропаліт Пітірым, знаходзяцца у Таўрычэскім Дварцы. Міністр судоў Керэнскі сказаў, што ён астаецца тым, чым і быў г. зн. рэспубліканцам.

### Ешчэ новы цар.

ПЕЦЯРБУРГ. Аляксей Мікалаевіч аклікнут царом; Міхайло Александравіч да яго паўналецьця будзе рэгентам.

### Пагляд швэдзкіх газэт.

ШТОКГОЛЬМ. Усе швэдзкіе газэты высказываюць пэрэконаньне, што расейскі пэрэварот у карысць саюзьнікоў.

### Або... або...

ПЕЦЯРБУРГ. Англійскі пасол на банкеці, які ён выдаў павадыром пэрэвароту, сказаў: „Гэта рэволюція азначае адно з двох, або трыумф англё-расейскай дружбы, або яе гібель“.

ШТОКГОЛЬМ. Вялікі князь Міхайло—забаўка у руках рэволюціонероў. Калі вялікі князь не згаджаўся з вымогамі Спаўніцельнаго Камітэту, то дэпутат Шынгароў сказаў яму: „разважаць — гэто наша справа, а вы павінны спаўняць тое, што вам кажуць“. Цар Мікалай будзе атпраўлен у Крым, дзе ён астанецца на не устаноўлены час. Дзе царская сем'я—





